Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 34 | Серада, 15-га Кастрычніка 1924 г. | Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. | Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## АБВЕСТКА

### Настаўнікам пачатковых школаў.

Школьная Камісія Часовай Беларускай Рады гэтым абвяшчае, што, ў зьвязку з адчыненьнем беларускіх школаў, усім зарэестрованым Камісіяй настаўнікам прапануецца: 1) прыслаць свае адукацыйныя дакумэнты і жыцьпярысы; 2) даныя аб тым, дзе магчыма адчыніць школы (ці ёсьць адпаведныя будынкі); 3) сабраць подпісы ня менш як 40 бацькоў, якія аддадуць сваіх дзяцей у беларускія школы; Подпісы павінны быць зацьверджаны солтысам і войтам; 5) якая школа зьяўляецца пажаданаю — чыста-беларуская, ці двухмоўная.

У выпадку, якіх-нібудзь тэхнічных труднасьцяў, ці перашкодаў з боку мясцовае ўлады, незабаўна паведамляць Школьную Камісію па адрэсе: Wilno, ul. Niemiecka, Hotel „Palace“, Białoruska Komisja Szkolna.

Вакансіі будуць замяшчацца ў парадку паступленьня заяваў.

**Школьная Камісія Час. Бел. Рады.**

# Ясныя рэзультаты.

Што-б ні гаварылі праціўнікі паразуменьня беларусаў з польскімі палітычнымі ці ўрадовымі сфэрамі, мы ведаем адно—першыя крокі адкрытага выступленьня Часовай Беларускай Рады з конкрэтнымі пажаданьнямі рэформаў у нашым жыцьці не засталіся пустымі.

Аўторытэтныя прадстаўнікі Польскага Ураду выявілі сваю ясную прыхільнасьць незабаўна пайсьці насустрэчу зусім законным беларускім пажаданьням, зусім насьпеўшым патрэбам, баламучанага дасюль лоўкімі палітыканамі беларускага насяленьня ў Польшчы.

За бальшавіцкія субсыдыі нятрудна выпушчаць усялякія „Праўды“, падвесіўшы да іх тытул „сялянскіх“, нятрудна выліваць на брук памыі з свае беларускае убогае хаты ў той час, калі падобная *праца* шчодра аплачваецца з фондаў Камінтэрну.

Баламуціць свой уласны гаротны народ лёгка, але нельга без канца спэкуляваць на яго нявольнай цемнаце і палітычнай наіўнасьці.

Народ мусіць жыць сваімі набалелымі патрэбамі, якія даюць сябе адчуваць на кожным кроку яго нацыянальнага разьвіцьця.

Раздуваньне нацыянальнай нянавісьці можа й добрая вадзіца на млын праўдзівых гаспадароў „Сялянскай Праўды“, але-ж таму гэтая вадзіца і наганяецца на бальшавіцкі млын пустаслоўнымі дэмагогамі, што іх гэта, як мае быць, грэе.

За іхнюю дэмагогічна-бяскрытычную пропаганду народ беларускі дасюль аддуваўся сваімі нявіннымі плячыма, дзеля таго, што ў вачох польскіх палітычных кругоў вырабіўся фальшывы пагляд на беларускую нацыю, як на пагалоўна антыдзяржаўны элемэнт.

Калі-ж выявіўся іншы кірунак беларускай мысьлі, нязгодны са староньнікамі пустога баламучаньня беларускіх масаў, кірунак позытыўнае працы на карысьць гэтых-жа самых масаў і іхняй лепшай будучыны, якая ніколі сама ня прыдзе ў сваёй сьветлай постаці, калі ня будзе для гэтага ніякіх прадпасылак, дык нялюдзкай злосьці нашых віленскіх палітыканаў, прывыкшых манапольна распараджацца беларускім рухам, няма ўжо ніякай меры.

Паўстае пытаньне, чаму гэта ў нашых палітычных праціўнікаў на губы выступае пена, калі, напрыклад, магчымасьць кіраваць закладаньнем беларускіх школаў даецца ня ім, а іншым беларусам?

Усё роўна-ж, беларускія школы маюць закладацца не для тэй ці іншай беларускай палітычнай групы, а для няшчаснае беларускае сялянскае дзятвы, што і так годзі гадавалася ў цемры й няведзе ў ненармальны ваенны час!

Чаму гэта сярод нашых палітычных мудрацоў, якія спрытна пад‘яжджаюць да душы беларускага селяніна са сваею „праўдайісьцінай“ выклікае іронічныя усьмешкі Часовая Беларуская Рада?

Ці-ж яны самі ў недалёкай вельмі мінуўшчыне не тварылі розных „Найвышэйшых“ Радаў, памёршых у невядома якім месцы, не пасьпеўшы нарадзіцца?

Ня йначай на гэтай невядомай „найвышэйшай“ вышыні ў іх так пазакручваліся галовы, што ніколі ўжо яны й не ачухаюцца.

Ад гульні ў высокую палітыку можна звар‘яцець, можна дайсьці да бальшавіцкае нецярцімасьці датычна інакшых паглядаў, але гульня гэткая заўсёды, як была, так і застанецца абсолютна бясплоднаю.

Рэзультат гэткае гульні з беларускім рухам тых, хто дасюль лічыў сваё права на кіраваньне ім нікім незапярэчаным, даволі ўжо ясны.

Рэзультат гэты заўсёды даваў адны толькі нэгатыўныя пасьледзтвы, вельмі балючыя для беларускае мужыцкае шыі.

Ня менш, аднак-жа, ясны й іншы рэзультат — імкненьня палітычна цьвярозай конфэрэнцыі арганізованага сялянства і дэмакратычнае беларускае інтэлігэнцыі знайсьці законным шляхам выхад з нацыянальнага тупіка.

Рэзультат гэтага імкненьня, вырысоўваецца, як вельмі выразна позытыўны.

Сетка беларускіх школ мае пачацца і расьці па меры аходаньня ўсіх тэхнічных труднасьцяў, не застанецца бяз увагі позна прыехаўшае з Маскоўшчыны на свае родныя сялібы беларускае бежанства, гэтак зруйнованае сваім горкім лёсам, прыдзе, нарэшце, гэтак доўгажданы самаўрад, калі само насяленьне прызвана будзе да кіраваньня сваімі мясцовымі справамі, завяршыцца з часам і зямельная рэформа.

Ніхто, аднак-жа, ня дасьць беларусам усяго гэтага ў гатовым відзе, калі мы пасыўна альбо, што яшчэ горай, нэгатыўна будзем адносіцца да кожнага пачынаньня ў кірунку насьпеўшых рэформаў.

І ня істэрыкай палітычных крыкуноў, а ўпартаю рэалізацыяй сваіх законных правоў цераз спакойную, творчую працу мы дасягнём першага пэўнага рэзультату — залогу нашае будучыны.

Для нас гэта ясна.

---

# Палітычны агляд.

Упадак рабочага кабінэту ў Англіі мала каго зьдзівіў, дзеля таго, што ўсе ўжо даўно былі да гэтага падгатоўлены. Наадварот, больш за ўсё было дзіўным, як ён мог пратрымацца 8 месяцаў, ня маючы большасьці ў парлямэнце. Гэта тлумачыцца толькі тым, што ён зусім адмовіўся ад правядзеньня свае рабочае праграмы ўва ўнутранай палітыцы, чаго яму не пазволілі-б лібэралы і консэрватары, а ўсю сваю ўвагу зьвярнуў на вонкавую палітыку, акую вёў у духу і напрамку сваіх папярэднікаў. І ў гэтым ён карыстаўся поўным падтрыманьнем опозыцыі, якая ад самага пачатку заявіла, што пакуль рабочы ўрад будзе бараніць агульна-дзяржаўныя інтарэсы, яна будзе трымацца нэўтральна. Але цяпер якраз прыйшоў момэнт, калі Макдональд зьбіраўся перайсьці ад справаў вонкавай палітыкі да пытаньняў унутранай палітыкі, ў якой павінны былі праявіцца яго сымпатыі да рабочых. Удачы на Лёнданскай конфэрэнцыі і ў Жэнэве былі толькі падгатоўкай да новага пэрыяду дзеяльнасьці, які толькі што пачаўся. Але консэрватары разам з лібэраламі пастараліся не дапусьціць да гэтага ды правалілі яго, скарыстаўшыся няважнай прычынай, якую ім дало спыненьне гэнэральным сэкрэтаром судовага сьледзтва па справе камуністычнага рэдактара Кэмпбэля, заклікаўшага армію і флёт проці дзяржавы.

Усе даныя даказваюць, што Макдональд даўно думаў выступіць на рашучы бой з опозыцыяй, але толькі ня ў гэтым месяцы. Калі-б ён праваліўся на ангельска-савецкім дагаворы або на нейкім рабочым проекце законаў, ён меў-бы шмат болей шансаў на ўдачу ў часе новых выбараў. Хаця й цяпер яшчэ нельга ясна наперад сказаць, якая са змагаўшыхся партыяў (рабочая, лібэральная і консерватыўная) пераможа. Рабочыя маюць той плюс, што яны даўно ўжо падгатаўляюцца да выбараў, а консэрватары і асабліва лібэралы былі захвачаны новымі выбарамі неспадзявана. Гэтыя апошнія маюць на падгатоўку да выбараў усяго толькі 2 тыдні, дзеля таго, што выбары назначаны на 29 гэт. мес. Уся Англія разьдзелена на 620 выбарных вакругоў. Консэрватары, як самая многа-

людная партыя, выставілі 520 кандыдатаў, рабочая партыя 500 і лібэральная 320. У Англіі ёсьць г. наз. адзіна-мандатная сыстэма выбараў, пры якой у кожным выбарным вокрузе выбіраецца адзін дэпутат, адтрымаўшы большасьць галасоў з канкураваўшых сьпіскаў. Гэткім чынам разыграецца асабліва гарачая барацьба ў тых вакругох, у якіх усе тры партыі выстаўляюць сваіх кандыдатаў. А гэткіх вакругоў больш як 200. Лібэралы і консэрватары ўжо па крысе дагаварыліся, каб не рабіць сабе конкурэнцыі ў тых вакругох, дзе ім пагражаюць рабочыя, і пастанавілі ў гэткіх здарэньнях гуртавацца, хаця яшчэ да поўнага паразуменьня не дайшлі. І толькі быць можа, што агульная небясьпека з боку рабочых, якія думаюць на новых выбарах адтрымаць абсолютную большасьць, прысьпяшыць гэтае паразуменьне між лібэраламі і консэрватарамі. Магчыма, што больш за ўсіх страцяць лібэралы, як партыя сярэдзінная. Склад ніжняй палаты ў той час, як Л. Джордж быў прэм'ерам, быў гэткі: консэрватары 366 мандатаў, лібэралы 120, рабочая партыя 76 і партыя незалежных лібэралаў 53. Выбары ў лістападзе 1922 г. пасьля правалу Л. Джорджа далі гэткія рэзультаты: консэрватары—344, рабочая партыя 144, лібэралы 52 і незалежныя лібэралы 60. А на выбарах у сьнежні мінулага году консэрватары адтрымалі ўсяго толькі 270 мандатаў, рабочая партыя адтрымала 200 і злучаныя лібэралы Л. Джорджа і Асквіта 130. Як відаць з гэтых рэзультатаў апошніх трох выбараў, рабочая партыя ўвесь час дужэла коштам лібэралаў і консэрватараў. На будучых выбарах менш за ўсё маюць прычын баяцца консэрватары, амаль што дабравольна адмовіўшыяся ад улады на карысьць рабочых, якія ўзапраўды рабілі працяг консэрватыўнага курсу ў заграічнай палітыцы. Бальдуін, маючы забясьпечаную большасьць сваі партыі ў парлямэнце, не рашыўся правясьці закон аб павялічэньні таможаннай аплаты за чужаземныя тавары, ня спытаўшыся аб гэтым у краю. І выбары, назначаныя ім, пад уплывам сільнай агітацыі рабочых, прынесьлі консэрватарам няўдачу. Але не прайшло й ½ года, як самі-ж рабочія пачалі на сходах прыймаць рэзалюцыі, дамагаўшыяся аховы роднай прамысловасьці шляхам павялічэньня аплаты за прывазімыя тавары. Шахцёры ў гэтым пытаньні йдуць побач з уласьнікамі шахтаў. Асабліва павялічалася імкненьне ў напрамку протэкцыйнай сыстэмы пасьля лёнданскага пратаколу і пляну Доўса, дзеля таго, што баяліся нямецкай конкурэнцыі. Гэта павінна паслужыць для іх плюсам на будучых выбарах.

Ангельска-эгіпэцкі конфлікт ня скончаны. Лёнданскія перагаворы эгіпэцкага прэм'ера Заглюля-Пашы з Макдональдам не далі ніякіх рэзультатаў. Эгіпэт дамагаецца поўнай незалежнасьці, г. зн. каб Англія вывела свае ваенныя гарнізоны з Эгіпту і таксама з Судану. Англія на гэта не згадзілася, апраўдаваючыся, што яна павінна пільнаваць Суэзкі канал, які забясьпечвае зьвязь з Індыяй і ўсходняй Азіяй. Заглюль-Паша, выяжджаючы з Лёндану заявіў, што, пакуль што, ня будзе рабіць рашучых крокаў і яшчэ ня траціць надзеі разрашыць гэтае пытаньне шляхам дыплёматычных перагавораў.

Палажэньне ў Кітаі крышку выясьнілася. Палудзенны кантонскі дыктатар Сун-Ян-Сэн заняў Шанхай. У той самы час манджурскі дыктатар Чан-Со-Лін ідзе на Пэкін. Савецкі ўрад зрабіў з манджурскім дыктатарам дагавор, на аснове якога ўсходня-кітайская чугунка аддадзена дзеля карыстаньня бальшавіком. Ранейшае расейскае кіраўніцтва чугункай выкінута, а галоўныя кіраўнікі арыштованы. Вялікія дзяржавы дзеля гэтага заявілі протэст, дамагаючыся перш за усё звальненьня арыштованых. Адказу яшчэ няма.

*N.*

# Беларуская дэлегацыя ў Варшаве.

(*Гл. № 33*).

На конфэрэнцыі з Міністрам Прасьветы і Рэлігіяў п. Міклашэўскім дэлегацыя Час. Беларускай Рады прадставіла ніжэйапісаны плян разрашэньня беларускага школьнага пытаньня:

1) адкрыцьце пачатковых беларускіх школаў;

2) прыняцьце на дзяржаўны кошт тых беларускіх прыватных школаў, якія ўжо істнуюць (сярэдніх і пачатковых);

3) паварот беларускіх настаўнікаў, праслухаўшых курсы ў Кракаве і абсаджэньне імі тых беларускіх школ, якія маюць быць заснованымі;

4) адкрыцьце кароткатэрміновых курсаў беларускае і польскае мовы дзеля удасканаленьня веды гэтых моваў тымі настаўнікамі, якія ўжо іх знаюць, каб выкарыстаць сілы гэтых настаўнікаў у бягучым школьным годзе;

5) адкрыцьце гадавых настаўніцкіх курсаў для тых настаўнікаў, якія не знаёмы, як належыць, з беларускай і польскай мовай;

6) адкрыцьце настаўніцкае беларускае сэмінарыі, па магчымасьці, ў Барунах;

7) адкрыцьце Беларускіх Гімназіяў у Глыбокім і Будславе.

8) дапушчэньне скончыўшае беларускія гімназіі моладзі ў польскія вышэйшыя школы і інш.

П. Міністар Прасьветы адказаў, што рэформа, як гэта намячае Урад, мае быць усебакова і плянова праведзена ў жыцьцё, толькі пачынаючы з пачатку 1925 — 1926 школьнага году, дзякуючы тэхнічным варункам.

Аднак-жа, дэлегацыя катэгорычна зазначыла неабходнасьць правядзеньня ў жыцьцё вышэйпаданых школьных постулятаў, ужо пачынаючы з бягучага школьнага году, пры чым прадставіла цэлы рад важных і моцных мотываў.

Пасля доўгае гутаркі, п. Міністар, прыняўшы пад увагу заяву дэлегацыі, прынцыпіяльна згадзіўся з яе довадамі і скіраваў яе, для абгавору тэхнічных труднасьцяў, да дырэктара дэпартамэнту пачатковых школаў. Пасьля 2-х конфэрэнцыяў з п. дырэктарам дэпартамэнту, быў апрацованы плян тэхнічнага правядзеньня, пачынаючы з гэтага году, насьпеўшых школьных рэформаў.

Аканчальны плян, пасьля перагавораў на мясцох са Школьнымі Куратарамі ў Вільні, быў прадстаўлены Час. Беларускай Радай п. Міністру Прасьветы 13 гэтага месяца ў Вільні.

Гэткім чынам, дэлегацыі ўдалося яшчэ з пачатку бягучага школьнага году дабіцца адкрыцьця родных пачатковых школаў, перакапаўшы ўрад у неабходнасьці гэтага.

На аўдыенцыі ў старшыні міністраў п. Улад. Грабскага дэлегацыя, асьвятліўшы палажэньне нашых акраін, падкрэсьліла неабходнасьць якнайхутчэйшага правядзеньня ў жыцьцё вышэйназваных школьных рэформаў, а таксама самаўраду і дапамогі ў адбудове тых, зьнішчаных вайною, бежанскіх гаспадарак, на якія ня была адтрымана падмога, дзякуючы пазьнейшаму павароту з Расеі гэтых гаспадароў.

П. прэм'ер-міністар запэўніў, што Урадам ужо прынята пастанова аб рэалізацыі вышэйпаданых постулятаў.

# Палітычная хроніка.

### У Польшчы.

Міністэрства Справядлівасьці, з прычыны ўвядзеньня ў жыцьцё з 1-га кастрычніка законаў аб мовах нацыянальных меншасьцяў, запрапанавала падуладнаму яму пэрсоналу заняцца вувучэньнем моваў нацыянальных меншасьцяў даннага ваяводзтва (украінскае, беларускае і літоўскае).

У нядзелю ўвечары ў Парыж выехаў міністар вайсковых справаў гэн. Сікорскі. Міністар выехаў па запрашэньню французкага ваеннага міністра гэн. Нольле. У Парыжы гэн. Сікорскі адбудзе рад конфэрэнцыяў зьвязаных з ваеннаю польска-французскаю конвэнцыяю, а таксама актуальнаю міжнароднаю сытуацыяй

# „Дрэз".

Сонца даўно ўжо схавалася за пуняй фальварку Залычча, якое паціху абнімала цемра...

Раўлі каровы, ідучы з поля на панадворак, паганяныя Даротаю, дзяўчынай—падлёткам; з-за лазьні, ад Будзішча, паказаўся чалавечак, які паціху зьліжаўся да фальварку.

— Дзень добры, паненцы! — жартаўліва да Дароты адазваўся ён.

— Дзень добры, дзядзька! — сьмяючыся адказала яна і сьцебанула хварасьцінай моцна „Маліну" па хрыбце.

— Ці ёсьць тут сабакі?—пытаўся падарожны ў Дароты.

— Есьць, але нічога,—ня ўкусяць. Зайдзеце, калі ласка, да хаты.

Дарота любіла голасна гаманіць, — ды і не адна Дарота: ўсе вясковыя ды фальварковыя людзі на Беларусі не гамоняць, а проста крычаць; так што, калі, напрыклад, у Залычны гэткая Дарота, або паненка Уршуля, або і сама пані-матка што нібудзь „рачаць" казаць, дык чуваць дакладна кожнае слова за поўвярсты ў Будзішчы, за вярсту у Катрынаве і Антонаве, і нат за тры вярсты ў Залесьсі ды на станцыі.

Падарожны шмыгануў праз сені да кухні...

Аграмадны Бром усьлед забрахаў важна, даючы зразумець, што ён, усё-ткі, падарожнага прымеціў.

У вялізнай кухні прышлы ўбачыў найбліжэй да сябе цэлую стаду курэй з курчаткамі, а пятух „тымчасова" на стол узьлезшы, дзёўбаў заляжалую там ад абеду гамолку хлеба.

Курчаткі ня спужаліся пілігрыма ды адразу абсыпалі яго, пазалазілі на ногі і плечы... Некаторыя пявункі падляталі ды дзёўбалі рукі ды гузікі ў вопратцы...

Ня мог кроку зрабіць, баючыся скалечыць каго-колечы з іх...

Раптоўна ў дзьвярох, што вядуць да пакояў, зьявілася пані Лычкоўская, з прыгожым і надта прыемным тварам, з ружанцам у руцэ...

Мінюту абое маўчалі зьдзіўленна...

— Дзень... пфу!.. вечар добры, панечцы! — казаў падарожны аслабелым голасам.

— Добры вечар! адкуль гэта, Дрэз? Ці даўно ў хаце, што ніхто ня чуў, як увайшлі?.. Вось куры з курчаткамі самога любяць... абчапілі.. Кыш... шш!! *жэбы* вас лепей...

Пані Лычкоўская пачала адганяць і бараніць Дрэза ад курачых стварэньняў.

— *Проша да столу*, пане Дрэз...

Кыш!! — каб на вас...

Дрэз асьцярожна, соўгаючы нагамі па гліненай падлозе, падышоў і сеў на зэдлі ля стала і тады ўжо вальней уздыхнуў.

Дрэз быў калісь важным музыкай: езьдзіў сам-пяты па багатых панох і шляхтах, і даваў „концэрты"... Але гэта было калісь... тады ён ня думаў аб старасьці... Цяпер... цяпер ён адзін блудзіць ад фальварку да фальварку, трымаючы пад пахай футэрал з флейтаю... У гэтым — яго хлеб... Адзежы яму ня трэ' было: нейкі добры пан з Лепельшчыны даў каптан, порткі, другі з-пад Друі падарыў скураныя лапці... Шапка толькі была зусім свая, ад гадоў дваццацёх трымалася на галаве ягонай, зьбіраючы ўвесь пот і шмэльц са скуры, і хоць мыў яе колькі разоў у Дзьвіне-рацэ, Вульлянцы ды па вазёрах, блішчэла здалёку, як покастам пацягнутая...

Гэта быў праўдзівы валачобнік, бо ніводнага дня не адбыў на адным месцы: сягоньня ў Будзішчы, заўтра ў Антавільлі, пасьлязаўтра ў Баўдзілаве і г. д. Ня дзіва, што шмат чаго чуў і бачыў, і затое мілым быў гасьцём на фальварках ды засьценках.

Твар сьвежага колеру, зморшчаны жыцьцём, быў прыемны; валасы сівыя на галаве ды лоб высокі, хоць вузкаваты, надаваў яму павагі.

Дрэз сядзеў хвіліну, пытаючыся, як і заўсёды, аб здароўі ўсіх Лычкоўскіх і іх родных, як-бы яго блізка гэта тычылася... Пані спакойна з усь-

13-га гэтага кастрычніка ў адміністрацыйным дэпартамэнце міністэрства працы адбылася юрыдычная консультацыя прадстаўнікоў міністэрстваў: земляробства, гандлю і прамысловасьці, чугунак, вайсковых справаў, публічных работ і скарбу па справе забясьпечаньня сэзонных рабочых ад безрабоцьця.

### За граніцай.

У **Лёндане** адтрымана нота **турэцкага** ўраду, якая зьяўляецца адказам на ангельскую ноту, ў якой Англія назначыла Турцыі срок да суботы 12 гадз. дня для ачышчэньня войскам занятых пазыцыяў згодна з прынцыпам status quo, ў праціўным выпадку Англія пакідае за сабою свабоду дзеяньняў.

Як перадае „Matin“, ужо пачаліся перагаворы з мэтай адтрыманьня францускае пазычкі ў Амэрыцы.

Эвакуацыя **Дортмунду** францускім войскам назначана на 20-е кастрычніка.

З **Ерусаліму** тэлеграфуюць, што войска новага **Гэджаскага** караля разьбіла вагабітаў, якія панясьлі значныя страты.

У **Англіі** вялікую сэнсацыю выклікала атака соцыялістычнае часопісі „New Statesman“ на ўрад Макдональда за непатрэбнае выкліканьне крызысу, які паўстаў, як думае газэта, бяз ніякае рэальнае асновы, дзякуючы над'звычайнай асабістай амбіцыі Макдональда.

Як тэлеграфуюць з **Бэрліну**, з прычыны ўдачнага ходу падпіскі на вялікую пазычку для **Нямеччыны**, якая складае аснаўны пункт пляну Доўса, адтрымалі абавязковую моц усе законы, прынятыя Рэйхстагам у зьвязку з пазычкаю.

**Гішпанскія** войскі пакінулі ў **Мароко** 3 займаныя дасюль імі пазыцыі.

Офіцыяльнае савецкае паведамленьне сьведчыць, што з прычыны неўраджаю 7 мільёнам чалавек пагражае голад.

З Канстантынопалю паведамляюць, што 50.000 **грэкаў** прызваны пакінуць граніцы **Турцыі** ў працягу 10 дзён пад пагрозаю выдаленьня.

Паводлуг вестак з **Бэрліну**, з прычыны няўдачы перагавораў аб стварэньні вялікае коаліцыі, праектуецца распусьціць Рэйхстаг, склад якога, як думае прэса, не адпавядае настроям народу. У выпадку роспуску Рэйхстагу выбары адбудуцца толькі ў канцы году.

Газэты паведамляюць, што ў **Маскве** адбыўся замах на Сталіна; страляў да яго студэнт-грузін у той час, калі ён праяжджаў каля Крэмля.

Паводлуг вестак з **Румыніі**, ўрадам раптоўна абвешчана асадное палажэньне, з прычыны магчымасьці паўстаньня і захапленьня паўстанцамі дзяржаўных інстытуцыяў.

Як тэлеграфуюць з **Рыму**, агенцтва „Стэфані“ упаважнена запярэчыць пашыраным за граніцаю чуткам, быццам **італьянскі** ўрад дакляраваў ратыфікаваць паразуменьне аб **Бэсарабіі**.

## Агляд прэсы.

„Kurj. Poranny“ з прычыны бытнасьці ў прадстаўнікоў польскага ўраду дэлегацыі Беларускай Часовай Рады дае перадавіцу на тэму аздараўленьня Крэсаў, у якой між інш. піша:

Беларусы кажуць, што цяперашняе палажэньне на крэсах выклікана ня толькі агітацыяй праціўдзяржаўных элемэнтаў, але й недахватам выразнай палітычнай праграмы адносна да беларускай справы ў сфэрах урадовых, а таксама і ў польскім грамадзянстве. Яны кажуць, што ня можа быць гутаркі аб аздараўленьні крэсовых адносін, калі безадкладна ня будзе ўведзены ў жыцьцё прынятыя ўжо закон датычна школьнай справы і беларускай мовы, калі ня будзе праведзена зямельная рэформа і мясцовыя самаўрады.

Гэта аснаўныя праўды, якія ня трэба было-б даказаваць, каб ня тое, што ў частцы польскага грамадзянства распаўсюджваецца эндэцкай прэсай пагляд, што цяперашняе палажэньне на крэсах выклікана толькі бальшавіцкай агітацыяй, і што ваеннае палажэньне будзе тым цудоўным лякарствам, якое спыніць і прычыну хваробы, і яе праявы.

Людзі, якія гэтак думаюць, вераць з аднаго боку ў сілу прапаганды, а з другога боку вераць у тое, што кожную прапаганду можна спыніць мэханічнымі спосабамі.

Дык вось перш за ўсё прапаганда ня мае гэтай цудоўнай сілы, аб якой кажуць. Усялякая прапаганда, таксама добрая як і злая, значыцца і бальшавіцкая, толькі тады дае ўсходы, калі пападае на падгатоўлены для сябе грунт.

Словы найбольш красамоўнага агітатара—гэта гарох аб сьцену, калі перад гэтымі словамі папярэднія факты не падгатовілі грунту ў сьвядомасьці масаў, заўсёды ня надта ўражлівых на словы і ідэі.

Бальшавіцкая агітацыя ня вывернула-б расейскае дзяржавы і не разбурыла-б расейскай арміі, калі-б царскі ўрад ня вытварыў у настроях народных масаў адпаведнага для гэтай агітацыі грунту. Бальшавіцкая агітацыя таксама ня мела-б ўсьпеху і сярод беларусаў на тэрыторыі Польскай дзяржавы, калі-б беларускае насяленьне ад самага пачатку знайшло на гэтай тэрыторыі варункі, якія забесьпячалі-б яму супакойную працу і народнае разьвіцьцё.

Ня трэба аднак забывацца, задачы польскай дзяржавы на крэсах былі і ёсьць вельмі трудныя. Польшча адтрымала ў спадчыне пасьля вайны край зьнішчаны эканамічна, а пасьля царскай няволі масы неразьвітыя культурна і палітычна. Зрабіць цуды з боку дабрабыту і культуры польская адміністрацыя ў працягу колькі гадоў велама не магла. Але магла і павінна была даць Крэсам законнасьць (praworządność) і пашану правоў усіх грамадзян. Вось гэтага спадзявалася ад польскае ўлады крэсовае насяленьне, якую вітала як збаўцу ад бальшавіцкага гвалту.

Беларускае насяленьне ўжо на сваёй уласнай скуры папрабавала камуністычных парадкаў і камуністычная прапаганда сярод яго ня мае ўсьпеху, а калі цяпер хітрая бальшавіцкая агітацыя й мае доступ да беларускіх масаў ужо пад новым нацыянальным клічам, дык прычын гэтага зьявішча трэба шукаць ня толькі ў наіўнасьці і палітычнай нясьпеласьці беларусаў, але і ў абмылках адміністрацыі польскай і ў тым, што ў нас няма яснай палітычнай праграмы ў адносінах да беларусаў.

Артыкул канчаецца добрай надзеяй:

Колькі гадоў у гісторыі народаў і ў дзяржаўным будаўніцтве—гэта ня шмат часу і абмылкі ў гэты час зробленыя, маючы добрае жаданьне, можна паправіць. Але дзеля гэтага аднак патрэбна добрае рашучае жаданьне з нашага боку. Да яго апэлююць з Беларусі людзі добрай волі.

### Крэсы — ссылка.

Орган аднаго з соймавых клюбаў „Piast“ таксама дае рады дзеля аздараўленьня крэсаў:

Урад павінен перамяніць зараз жа ўсю тамашнюю адміністрацыю; трэба знайсьці людзей і спосабы.

На крэсы трэба даць зараз-жа найлепшых, якія толькі ёсьць у Польшчы, урадоўцаў. Трэба зрабіць там для іх магчымае жыцьцё, а пасьля перанесьці іх воляй або няволяй.

... Дагэтуль там ішлі адны Менсовічы, найгоршыя ўрадовы матар'ял. Зрабілі з крэсаў прыпынак для выгнаных з Малапольшчы і Конгрэсоўкі, так што ў урадніцкіх сфэрах крэсы лічацца карнай калёніяй.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Проці тэрору ў бальшавіцкіх вастрогах.

У газэтах зьявіўся гэткі „Зварот да дэмакратыяў Зах. Эўропы і савецкага ўраду“:

З расейскіх вастрогаў ляціць у Эўропу адчайны крык аб падмозе—ён павінен быць пачуты, калі чалавечнасьць не зьяўляецца пустым словам. Больш як 400 расейскіх соцыялістых вось ужо другі год інтэрнованы на Салавецкіх астравох—у Белым моры, недалёка ад паўночнага палярнага круга. Яны аддадзены пад уладу забойчага клімату, пакутуюць ад недахвату ў кармленьні, ад жорсткага абходжаньня. Паводлуг ведамасьцяў, адтрыманых заграніччаю дэлегацыяю Расейскае Соцыяль-Дэмакратычнае Рабочае Партыі, 45 процэнтаў арыштованых хворыя на скорбут і тубэркулёз (сухоты), трох звар'яцелі, шасьцёх у мінулым годзе, па нікчэмнай прычыне, забіты вартаю.

Ужо некалькі месяцаў назад варункі сядзеньня ў перапоўненых вастрогах, парабленых са старога быўшага манастыра, зрабіліся настолькі жахоўнымі, што арыштованыя заявілі: „Мы не перажывём другое зімы“ ды пачалі галадоўку, ня прывёўшую ні да якіх рэзультатаў. Дарма таксама, з мэтаю ўхіліцца ад далейшага прабываньня ў душных лёдзяных падвалах, трэбавалі яны переводу ў якое-нібудзь іншае месца. Бальшавіцкі ўрад паслаў на Салавецкія астравы—і на яшчэ болей аддаленыя Анзэрскія—новыя партыі палітычных арыш-

---

мешкай з ім гаварыла, адпавядаючы і задаючы пытаньні.

Цёмна ўжо было ў хаце, бо сьцямнела і на дварэ...

Пачулася ступаніна ў сянёх, дзьверы адчыніліся. Стары пан Лычкоўскі закульгаў з кулём саломы па кухні, за ім Мамэрты-сын з абруцёй, малатком ды абцугамі. Кончылася праца, дык і струмэнты зносіліся і клаліся на месца.

— Навошта салому прынёс?—запыталася пані.

— Ат, можа прыдасца да чаго... Здаецца-ж нейкі падарожны йшоў да нас?—казаў ён і, паклаўшы салому на палаці, падышоў да стала, прыглядаючыся праз цемнату да сядзячага Дрэза.

— Дзень... пфу! Добры вечар, пану Лычкоўскаму! ***Завіталэм*** і да вас па *дродзэ*, выбачце!

— А, ат даўно бачыліся... блізка году... Добры, добры вечар! А музыка пры сабе?..

— Палеце лямпу, Дарота! — зьвярнуўся ажывіўшыся пан да ўвайшоўшай Дароты.

. . . . . . . . .

— Стась! золатца! брылянт ты мой, прачніся — Дрэз прыйшоў! — будзіла Уршулька свайго жаніха.

Стась пацягнуўся, зяўнуў...

— Чуеш, як іграе на флейце?! Пойдзем, даражэнькі, да сталовай... гарбатка гатова... і ён вось іграе...

З вялікім амбарасам, пасьля доўгіх і смачных „пацалункаў“, узьняўся Стась і ўвесь гарачы пашоў з Уршулькай праз салён да сталовай. Праз адчыненыя вокны веяла сьвежае пахнючае паветра.

Ля стала сядзелі ўсе Лычкоўскія. На стале была ў шклянках гарбата, хлеб, мёд, масла, сыр і малако.

Збоку, на зэдлі, сядзеў Дрэз і, трымаючыся аберуч за флейту, выдмухаў з яе тоны... Зблізку няпрыемна было слухаць музыкі, бо чулася, як цяжка даюцца яму тоны: гу... гу... гу... дуў ён і голасам вырывалася таксама: гу... гу... гу...

Здалёку, дык забірала за жывое... Сумнамаркотна рабілася... Усе галовы пазьвесілі, успамінаючы... думаючы... толькі Бром-сабака „ня ўпаў у трасе“, а як Дрэз надта жаласьліва пачаў захлібацца ды флейту і сябе мучыць, — Бром завыў, яму ўтаруючы: А-г-у-у-у...

Усе прачхнуліся... некаторым страшна зрабілася, іншых сьмех забраў. Кончыў іграць і Дрэз.

— *Проша паньства!* а ці *жые* пан Баўтрукевіч? ага... так... Баўтрукевіч, ці *жые*?

— Памёр ужо... адказаў ціха пан Лычкоўскі.

— А-а-а! ну, вечны пакой! а разам калісь, сам-пяты, як зайграем у яго, дык віна, гарэлкі, піва... пеце, кажа, ешце, колькі трэба... а *тэраз нема... ўмарлі...* ага *ўмарлі...* пеце ешце, казаў, колькі трэба...

— Альжбетка! ці вы там у кухні павячэралі ўжо? — запыталася пані ў дзяўчыны, якая плячмі падпірала „тымчасова“ сьцяну, слухаючы музыку.

— Не яшчэ! — адазвалася тая. — Зараз вось прыйдзе ад кароў Дарота і з поля Аляксандар, тады зачнём...

— А вось і яны чуваць прышлі! — закончыла Альжбетка і пачала прыслухацца.

— Ідзі, тады, стаўляй на стол страву, бяры хлеб у шафцы... з вамі і Дрэз павячэрае, бо штож яму гарбата, з дарогі лепей страва!

Дрэз, не чакаючы запрашэньня пасунуўся да кухні, сабака за ім, спадзяючыся абсмактаць не адну костку пад сталом.

Паны асталіся адны пры гарбаце.

Стась, як чалавек бывалы і душы добрай, адчуў сэрцам музыку і, яшчэ больш, гора старца, які, іграючы, як-бы плакаў і жаліўся, што долі ў жыцьці не знайшоў...

І гэткі ён! што паны вялікія рады былі яго концэрты слухаць, лічылі яго прыезд за сябе за пачатак сьвятканьня і баляў, — гэткі ён! цяпер тут у Залычы, ў паняверцы...

**А. В.**

*(Канец у чарод. нумары).*

